**Выдавец:**
Прыватнае прадпрыемства «Дарога на Вільню плюс», пасв. №391053932, выд. 12.10. 2009 г. Глыбоцкім РВК.
Перыядычнасць – 1 раз на тыдзень, дзень выхаду – чацвер.
**Выдаецца са снежня 1994 года**
**№ 30 (851) 28 ліпеня 2016 года.**
**Кошт свабодны.**

Штотыднёвая газета

# Вольнае Глыбокае

vglybokaye@tut.by



**Купляйце! Апошнія вішні сезона!**
*Фота Ул. Скрабатуна.*






# Усе раёны Віцебскай вобласці прыступілі да жніва

**Усе раёны Віцебскай вобласці прыступілі да ўборкі збожжавых культур, паведамілі карэспандэнту БелТА ў камітэце па сельскай гаспадарцы і харчаванні Віцебскага аблвыканкама.**

Па аператыўных дадзеных на раніцу 25 ліпеня, скошана 5 тыс. га, што складае 1,4% ад агульнай колькасці хлебнай нівы рэгіёна. Хлебаробы намалацілі 14,6 тыс. т збожжа, пры сярэдняй ураджайнасці 29 ц/га (летась на гэту дату ўраджайнасць была аналагічнай). У цэлым аграрнікам вобласці трэба прыбраць больш за 351 тыс. га, на жніве плануецца задзейнічаць 1 тыс. 643 камбайны.

У вобласці працягваецца корманарыхтоўка. Рэгіён лідыруе сярод абласцей па аб'ёмах нарыхтаваных травяных кормаў – на ўмоўную галаву скаціны назапашана 15 ц кармавых адзінак.

У гаспадарках вобласці вядзецца ўборка рапсу – тэхніка ўжо прайшла 43% палёў, занятых алейнай культурай. Ураджайнасць рапсу складае 14,8 ц/га. Льнозаводы вядуць церабленне лёну. Гэтыя работы праведзеныя на 17% плошчаў.

*Паводле БелТА.*



ISSN 2077-8023



Шаркоўшчынскі вобласць

# Не пакінулі ў бядзе

■ Кастусь Александровіч

**Сярэдзіна сёлетняга лета запомніцца многім суайчыннікам навальніцамі з моцным градам і ветрам, а жыхам Шаркаўшчыны – асабліва і надоўга.**

Менавіта гэты райцэнтр стаў першым у Беларусі, дзе перажылі рэдкую ў нас кліматычную з'яву тарнада са смерчам. Раней, праўда, такія буры ўзнікалі ў краіне, але яны, на шчасце, не закраналі населеныя пункты. Дасталася болей лясным масівам, дзе з'яўляліся цэлыя палосы з сотняй метраў ушчэнт павленага лесу. Сёлета ўпершыню ў Шаркаўшчыне сур'ёзныя траўмы атрымалі тры жанчыны, а прадавец гандлёвага павільёна апынулася на грані гібелі. Улічваючы маштабы разбурэнняў у гарпасёлку, аператыўна адрэагаваў на здарэнне ўрад Беларусі. Раёну для дапамогі ў ліквідацыі наступстваў стыхіі выдзелілі дадатковую дапамогу шыферам, руберолідам і ліставой сталлю з дзяржрэзерву. Гэты матэрыял будзе накіраваны для аднаўлення двухсот аднакватэрных жылых дамоў і яшчэ васьмі шматпавярховак, у якіх моцна пашкодзіла і нават пазрывала дахі, павыбівала шкло ў вокнах. Неабходна будзе аднаўляць і тры жывёлагадоўчыя фермы, якія таксама моцна пацярпелі, дзе раненні атрымалі 35 цялят. Аднак ніводная з амаль чатырохсот жывёлін на загінула. Маштабы прайшоўшай буры былі такія вялікія, што над аднаўленнем падачы электраэнергіі працавала тут 20 аварыйных брыгад "Віцебскэнерга". У той дзень моцны дождж з градам абрушыўся таксама і на суседнія Глыбоцкі і Докшыцкі, дзе пацярпелі некалькі жылых дамоў.

Докшыцкі раён

# На трэці тэрмін

■ Станіслаў Раманчук.

**Галоўнай асаблівасцю праходзячых у краіне выбарчых кампаній з'яўляецца прадказальнасць іх вынікаў і тое, што ў парламент, як правіла, праходзяць кандыдаты, падтрымліваемыя ўладамі.**

Праўда, сёлета на Віцебшчыне зарэгістравалі ўсе 48 ініцыятыўных груп па зборы подпісаў, а на папярэдніх выбарах было нават 14 адмоў. У параўнанні з іншымі абласцямі, даволі шмат, нават пяцёра дзеючых дэпутатаў беларускага парламента зноў сталі вылучацца на месцы ў авальнай зале. Па Докшыцкай выбарчай акрузе № 22 зноў ідзе паўторна ўжо на трэці тэрмін 67-гадовы Уладзімір Андрэйчанка. Як вядома, у парламенце чацвёртага і пятага скліканняў ён узначальваў Палату прадстаўнікоў Нацыянальнага сходу. Дагэтуль у мінулым вопытны гаспадарнік шмат гадоў плённа ўзначальваў Віцебскі аблвыканкам і тады вобласць мела значна меней праблем, чым цяпер. Шанцаў на ягонае перавыбранне ў гэтай акрузе даволі шмат, бо спікер парламента рэгулярна прыязджаў у глыбінку, сустракаўся з людзьмі, стараўся дапамагаць вырашаць узнятыя імі праблемы ў межах сваёй кампетэнцыі. Як сур'ёзны палітык, ён днямі ўдзельнічаў у цырымоніі ўрачыстага адкрыцця санаторна-курортнага комплексу "Пліса" на лясным беразе прыгожага возера ў Глыбоцкім раёне. Перашкодзіць перамозе У. Андрэйчанкі на паўторных выбарах можа толькі такая акалічнасць, што ён пакуль з'яўляўся безальтэрнатыўным кандыдатам. Па новых правілах выбары пройдуць у адзін тур, але калі прэтэндэнт не мае канкурэнтаў, за яго павінны прагаласаваць больш 50 % выбаршчыкаў.

Віцебск

# А многім не да песень

■ Чэслаў Якубовіч.

**Як нідзе болей у Беларусі, у Прыдзвінні любяць розныя святы, бо ў розных кутках вобласці зараз праводзіцца 20 фестываляў, палову з якіх маюць статус міжнародных.**

У адным толькі абласным цэнтры штогод такіх фестываляў праводзіцца тры, аднак усіх яўна абышоў "Славянскі базар у Віцебску-2016". Па размаху мерапрыемстваў і колькасці гасцей гэты юбілейны фестываль не меў сабе роўных, нягледзячы на эканамічны крызіс і няпростую сітуацыю ў самім горадзе, у многіх раёнах. Тым не менш віцябляне на тыдзень быццам забыліся, як складана зараз многім жывецца пры росце цэн сёлета болей 7%. На вуліцах горада падчас фестывалю абуладкавалі каля 20 панадворкаў, якія прывезлі раённыя райпо. Кожны мог выпіць і закусіць і ў дадатковых 12 летніх кафэ. З рэгіёнаў у Віцебск было загадана прывезці таксама шмат творчых калектываў, у першы дзень госці фестывалю пабачылі маштабны конкурс барабаншчыц. Затым прайшло творчае саперніцтва духавых аркестраў вобласці, а яшчэ праз суткі свае вырабы прадэманстравалі майстры па вырабе народных касцюмаў. Падчас фестывалю адбыліся і іншыя конкурсы народных майстроў "Лазовы прут" і "Славянская казка". Кожны рэгіён таксама павінен быў абараніць брэнд свайго горада і раёна. На месцах думалі, дзе браць столькі транспарту, бо кожны раён павінен быў яшчэ даставіць каманды для ўдзелу ў лёгкаатлетычным "Славянскім забегу". І ўсё б было добра, але напярэдадні гулянняў адзін віцебскі рабочы запатрабаваў выплаты зарплаты з заточкай у руках. Раней мясцовы будаўнік дабіўся такіх выплат, толькі калі некалькі гадзін правёў на высотным вежавым кране ў Мінску.

**Надвор'е ў Глыбокім** www. rp5ru

| | Чацвер 28.07.16 | | | | Пятніца 29.07.16 | | | | Субота 30.07.16 | | | | Нядзеля 31.07.16 | | | | Пан. 01.08. | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Мясцовы час | 03 | 09 | 15 | 21 | 03 | 09 | 15 | 21 | 03 | 09 | 15 | 21 | 03 | 09 | 15 | 21 | 03 | 09 | 15 |
| Хмарнасць Ападкі | | | | | | | | | | | | | | | | | | | |
| Тэмпература | +20 | +23 | +27 | +25 | +22 | +23 | +22 | +21 | +18 | +21 | +25 | +22 | +19 | +20 | +24 | +22 | +20 | +18 | +21 |
| Ціск | 748 | 748 | 746 | 745 | 743 | 743 | 743 | 744 | 744 | 745 | 744 | 745 | 745 | 746 | 746 | 746 | 746 | 746 | 745 |
| Вецер м/сек | 1 У | 3 Пд-У | 4 Пд-У | 3 Пд-У | 6 Пд-У | 5 Пд-З | 3 З | 2 Пд-З | 3 Пд-З | 4 Пд-З | 4 Пд-З | 2 З | 4 Пд | 4 З | 3 З | 2 Пд-З | 3 Пд-З | 5 Пд | 3 Пд |
| Вільготнасць | 95 | 80 | 49 | 77 | 78 | 87 | 79 | 87 | 96 | 80 | 53 | 77 | 86 | 90 | 53 | 82 | 88 | 95 | 78 |

# Аб самым надзёным

## ДЛЯ БЕЛАРУСАЎ І, АСАБЛІВА ДЛЯ СУСЕДЗЯЎ РАСІЯН, ПРАДСТАЯЧЫЯ АЛІМПІЙСКІЯ ГУЛЬНІ МОГУЦЬ СТАЦЬ САМЫМІ НЯЎДАЛЫМІ Ў ІХ ГІСТОРЫІ

■ Аляксандр Цішкевіч.

**Прадстаячыя старты будуць без усялякага перабольшвання грандыёзнай падзеяй сусветнага значэння, паколькі ў далёкую Бразілію збіраюцца прыехаць рэкордных 206 краін. Упершыню на гэту Алімпіяду прыедуць спартсмены з Косава і Паўднёвага Судана.**

На працягу цэлага месяца многія беларусы, нават далёкія ад навін спорту, былі ў захапленні ад праходзіўшага ў Францыі чэмпіянату Еўропы па футболе. Суайчыннікаў па-добраму здзівіла, якімі сапраўднымі спартыўнымі нацыямі могуць быць невялікія дзяржавы Ісландыя і Уэльс, якія па колькасці насельніцтва і па тэрыторыі саступаюць нашай Віцебскай вобласці. Як вядома, наша футбольная зборная на Еўра-2016 не прабілася, няўдала згуляла ў адборачным турніры. Аднак гэта каманда парадавала, што яна выбрала сабе айчынны брэнд "белыя крылы" і будзе далей гуляць у вышыванках.

З тымі ж французамі, як абяцаюць функцыянеры, беларусы восенню пазмагаюцца ў новых нацыянальных строях. Гэта правільны крок у справе пабудовы галоўнай каманды краіны на прынцыпах нашай адметнасці ў свеце, выхавання патрыятычных пачуццяў. Аднак канцоўка лета сёлета абяцае таксама цікавейшую спартыўную падзею года, бо з 5 па 21 жніўня пройдуць XXXI Летнія Алімпійскія гульні. Іх будзе ўпершыню прымаць у гісторыі чалавецтва паўднёвае паўшар'е амерыканскага кантынента, а сталіцай гульняў і потым Паралімпійскіх гульняў стаў буйнейшы бразільскі мегаполіс на беразе акіяна Рыа-дэ-Жанейра.

Прадстаячыя старты будуць без усялякага перабольшвання грандыёзнай падзеяй сусветнага значэння, паколькі ў далёкую Бразілію збіраюцца прыехаць рэкордных 206 краін. Упершыню на гэту Алімпіяду прыедуць спартсмены з Косава і Паўднёвага Судана. Будзе разыграна таксама рэкордная колькасць 306 камплектаў медалёў у 28 відах спорту. Ужо ў пачатку лета ў сталіцы гульняў адкрылася Алімпійская вёска, у якой размесціцца каля 17 тысяч атлетаў, а беларусы будуць жыць разам з украінцамі. Цікава, што за алімпійскімі баталіямі па традыцыі будуць сачыць на алімпійскім футбольным турніры жыхары яшчэ пяці бразільскіх гарадоў – Белу-арызонці, Бразілія, Манаўса, Сальвадора і Сан-Паўла.

Нядобразычліўцы, канешне, будуць звяртаць увагу на існуючыя ў бразільцаў сацыяльныя праблемы, там назіраецца эканамічны і палітычны крызіс. Аднак гэта краіна вялікая і магутная ва ўсіх аспектах, яна без сумнення пераадолее ўзнікшыя цяжкасці. Аб многім гаворыць той факт, што ў агульнай структуры расходаў больш 60 % інвестыцый ( 7,1 млрд. долараў) на інфраструктуру спартыўных арэн былі ўкладанні прыватнага сектара. Не ўсё брала для на сябе дзяржава, а там дзе развіваецца прыватнік, добра пачувае сябе і просты чалавек. Гульні пройдуць, а бразільцам застануцца новыя дарогі, гатэлі, рэстараны і крамы, абноўленыя скверы, паркі і стадыёны.

Нас з вамі ў першую чаргу цікавяць шанцы беларускіх алімпійцаў. За месяц да пачатку грандыёзных спаборніцтваў, нагадаем, што нашы 134 землякі заваявалі ліцэнзіі за права выступіць на Гульнях у 25 відах спорту. У параўнанні з папярэднімі такімі стартамі – гэта найменшая колькасць, што дае падставу думаць аб малым ураджаі ўзнагарод беларусаў у Рыа-дэ-Жанейра. Добра яшчэ, што днямі былі зняты абвінавачванні ў адносінах беларускіх весляроў на байдарках і каноэ, у акадэмічным весляванні. У гэтых відах раней мы бралі медалі, павінны і зараз выступіць нармальна.

Таксама парадавала і новая прыгожая форма адзення для беларускіх спартсменаў, якую распрацавалі айчынныя дызайнеры. Беларускія ўрачы сцвярджаюць, што не пагражае нашым алімпійцам і рызыка заражэння вірусам Зіка падчас Алімпіяды. І ўвогуле, можна быць упэўненымі, што ў далёкай Бразіліі беларусы статыстамі не будуць, яны будуць змагацца там не толькі, каб патрапіць на п'едэстал гонару, але і каб праславіць нашу Радзіму. У гэтым сэнс жыцця атлетаў высокага класу, тыя ж нашы дзяўчаты-баскетбалісткі аддалі ўжо шмат сіл, каб прабіцца на Алімпіяду.

А вось з боку нашых суседзяў у Расіі, асабліва з веснаў добра падкормленых крамлёўскіх прапагандыстаў неўзабаве можам пачуць з іх тэлеканалаў нават стогны і абурэнні, што рускіх зноў крыўдзяць, а гэта Алімпіяда будзе непаўнацэннай. Справа ў тым, што толькі ў самы апошні момант Міжнародны алімпійскі камітэт не стаў адхіляць усю алімпійскую расійскую зборную ад Гульняў у Рыа. А вось расійскую лёгкую атлетыку і каманду цяжкаатлетаў ужо адхілілі ад спаборніцтваў і дыскваліфікавалі за масавае прымяненне допінгу і розныя махінацыі. Асобныя рускія вядомыя людзі і палітыкі загаварылі, што трэба камандзе РФ не ехаць у Бразілію, правесці сваю альтэрнатыўную Алімпіяду.

Канешне, да гэтага справа не дойдзе, маўчалі ўжо ў трапачку такія гора-патрыёты, бо асобныя іх суайчыннікі медыкі, лёгкаатлетка Ю. Сцяпанава чэсна прызналіся, што існавала "допінгавая праграма Сочы-2014" і пра іншыя факты махінацый. Правільна зрабіў той жа МАК, што балюча ўдарыў па нячэсных атлетах, многія з якіх аказаліся расійскія, допінг выявілі і ў некаторых беларусаў. Зараз нас з суседзямі аб'ядноўвае тое, што медалёў прывязём меней, чым раней. Кіраўніцтва Беларусі таксама выступае за чысціню беларускага спорту, а ўсе мы з вамі ўсё ж разлічваем на дастойнае выступленне нашых на Гульнях, за якімі будуць сачыць, удумайцеся, 5 мільярдаў чалавек ва ўсім свеце.

## Дзень за днём

**Прэзідэнт рашыўся на банкруцтва шэрагу стратных гаспадарак. Урад Беларусі адмяніў абмежаванні на вываз паліва з тэрыторыі краіны. За 2009-2015 гады дэвальвацыя беларускаг рубля дасягнула амаль 700 %. Беларусь з Зімбабве сталі сусветнымі лідарамі па гіперінфляцыі. У чэрвені беларусы на трэць павялічылі пакупкі замежнай валюты. У краіне распрацавалі новую дзяржпраграму па барацьбе з п'янствам да 2020 года. У Мінск перанясуць са Швейцарыі прах Магдалены Радзівіл. Зборная Беларусі па футболе выбрала сабе брэнд "белыя крылы" і будзе гуляць у вышыванках. У сталіцы адкрыўся першы дзяржаўны гатэль для жывёл.**

# Важнейшыя навіны свету

**Англія.** Урад адверг патрабаванні 4,2 млн. брытанцаў правесці паўторны рэферэндум аб членстве краіны ў ЕС, аднак гэту іх петыцыю разгледзіць англійскі парламент.

**ЗША.** Значнае скарачэнне паставак у Беларусь расійскай нафты, як заявіла агенцтва Reuters, выклікана палітычнымі прычынамі, пачатым збліжэннем Мінска з Захадам.

**Польшча.** Глава МЗС В. Вашчыкоўскі заявіў, што палякі гатовы быць пасрэднікамі ў збліжэнні Беларусі і НАТО, альянс гатовы да супрацоўніцтва і кантактаў з беларусамі.

**Англія.** У другі раз у гісторыі прэм'ер-міністрам краіны стане жанчына, главу ўрада выберуць на агульнапартыйных выбарах кансерватараў сярод Т. Мэй альбо А. Ледсам.

**Расія.** Пуцін падпісаў "антытэрарыстычны" пакет законаў Яравой у сталінскім духу: у турму пасадзяць за неданясенне і з 14 гадоў, ФСБ будзе ведаць усе размовы людзей.

**Украіна.** На выпадак маштабнай ваеннай агрэсіі Генштаб краіны пачаў ствараць паўсюдна атрады абароны па тэрытарыяльным прынцыпе з рэзервістаўдобраахвотнікаў.

**Сірыя**. Міністэрства абароны РФ прызнала гібель двух расійскіх ваенных лётчыкаў, якіх збілі з верталётам Мі-35М у ходзе баявых дзеянняў у правінцыі Хомс падчас разавароту.

**Польшча.** На саміце НАТО ў Варшаве член украінскай дэлегацыі Н. Саўчанка заявіла, што Мінск як пляцоўка перамоў па Данбасе сябе вычарпаў, трэба шукаць новыя метады.

**Венесуэла.** У багацейшай нафтай краіне заробкі знізіліся да 20 долараў у месяц, нават у 5-мільённым Каракасе многія людзі перасталі есці мяса, чакаюць ваеннага перавароту.

**ЗША.** Агенцтва "Інтэрфакс" паведаміла аб нібыта смерці тут былога палкоўніка разведкі ФСБ А. Пацеева, які дапамог амерыканцам арыштаваць групу расійскіх шпіёнаў.

**Расія.** Глава Міністэрства энергетыкі РФ А. Новак заявіў, што толькі калі Беларусь пагасіць свае даўгі за газ, тады, магчыма, павялічацца аб'ёмы паставак расійскай нафты беларусам.

**Лівія.** Сын лівійскага дыктатара-нябожчыка М. Кадафі Сейф-аль-Іслам выйшаў на свабоду па амністыі, але яго яшчэ праследуе Міжнародны крымінальны суд у Гаазе.

**ЗША.** У ходзе пратэстаў у горадзе Далас супраць паліцэйскага насілля застрэлілі 5 паліцэйскіх, траіх злачынцаў затрымалі, аднаго чорнаскурага страліка забілі.

**Украіна.** Абурэнне сярод многіх рускіх і ў Крамлі выклікала перайменаванне дэпутатамі гарадской Рады Маскоўскага праспекта Кіева ў праспект Сцяпана Бандэры.

**Аўстрыя.** Арцыбіскуп Вены, кардынал К. Шонбарн пацвердзіў, што з главой беларускага МЗС У. Макеем ён абмяркоўваў магчымасці перадумоў візіту Папы Рымскага ў Беларусь.

*Служба інфармацыі "ВГ" (па звестках інфармагенцтваў і інтэрнэтрэсурсаў).*

# Беларусы змогуць паступаць у польскія ВНУ паводле асобнага конкурсу




■ news.tut.by

**Беларусь і Польшча падпісалі пагадненне аб супрацоўніцтве ў сферы адукацыі. Яно прадугледжвае абмен студэнтамі і выкладчыкамі на парытэтных асновах, а таксама стажыроўкі за кошт дзяржавы, распавёў міністр адукацыі Міхаіл Жураўкоў у «Галоўным эфіры» на «Беларусь 1».**

— Ёсць прамыя пагадненні паміж універсітэтамі Польшчы і Беларусі. Пагадненне ж паміж нашымі краінамі больш выразна рэгламентуе колькасць студэнтаў і працягласць іх стажыровак. Стажыроўка для 12 студэнтаў будзе доўжыцца да пяці месяцаў. Калі колькасць студэнтаў памяншаецца, павялічваецца працягласць іх стажыроўкі,— расказаў Міхаіл Жураўкоў.

Пры гэтым міністр адзначыў, што стажыравацца студэнты ў Польшчы будуць за дзяржаўны кошт.

Акрамя таго, пагадненне дае права беларусам і палякам паступаць ва ўніверсітэты Польшчы і Беларусі на бясплатнай аснове. Студэнты, якія падаюць дакументы на навучанне, не ўдзельнічаюць у агульным конкурсе абранай імі навучальнай установы. Іх заяўку разгледзіць камісія праведзе сумоўе на веданне прадмета і нацыянальнай мовы.

Колькасць месцаў для абітурыентаў кожны год будзе вызначацца па сумесным пасяджэнні прадстаўнікоў міністэрстваў адукацыі.

Акрамя гэтага, да 20 студэнтаў, якія навучаюцца на першай і другой ступені ў Беларусі, змогуць працягнуць сваё навучанне ў Польшчы і вярнуцца назад.

Пытанні, звязаныя са стажыроўкай педагогаў, будзе вырашаць с спецыяльная камісія, куды ўвойдуць прадстаўнікі польскага і беларускага бакоў. Стажыроўкі для выкладчыкаў будуць доўжыцца да месяца. У групу будзе набірацца па 10-15 чалавек.

У пагадненні таксама прапісана, што бакі будуць удасканальваць змест школьных падручнікаў гісторыі.

— Паміж нашымі краінамі існуюць вельмі цесныя гістарычныя ўзаемасувязі, шмат пераплецена падзей, шмат гістарычных асоб нават цяжка ідэнтыфікаваць — беларусы яны або палякі. Таму мы дамовіліся, што гісторыкі, кампетэнтныя прафесары будуць разам вызначаць змест пэўных раздзелаў гісторыі, каб карэктна выкладаць гістарычныя падзеі. Навукоўцы будуць дзяліцца дакументальнымі фактамі, каб больш карэктна падаць пэўныя гістарычныя факты нашай супольнай гісторыі, - сказаў Міхаіл Жураўкоў.

Міністр адзначыў, што гэта не першае міжнароднае пагадненне ў сферы адукацыі, а «яшчэ адзін добры штрых у багатай міжнароднай дзейнасці нашай сістэмы адукацыі, каб павышаць свой прафесійны ўзровень».

# Падзеі, пра якія гаворыць Беларусь

**Мінск.** Глава Нацбанка П. Калавур заявіў аб неабходнасці структурных рэформ, інакш Беларусь не выйдзе на ўстойлівы рост эканомікі, але і падтрымаць тых, хто пацерпіць.

**Брэст.** На чыгуначным пагранпераходзе ў Тэрэспалі польская мытня выявіла рэкордны ў гісторыі кантрабандны груз 367 тысяч пачак цыгарэт на суму звыш 1 млн. долараў.

**Мінск.** Беларускі бізнесмен, уладальнік кампаніі "Юрас Ойл" Д. Лабяк набыў за 1,7 млрд. $ 20 % пакета акцый "Уралкалія" ў групы АНЕКСІМ расійскага алігарха М. Прохарава.

**Мазыр.** Спіртагарэлачны завод звярнуўся з заявай у Эканамічны суд Гомельскай вобласці аб прызнанні сябе банкрутам, яго страты летась дасягнулі 103,3 мільярда рублёў.

**Рэчыца.** Позна вечарам у вёсцы Першамайск забег у двор, а потым у хату воўк, моцна пакусаў 4-х чалавек, некалькі сабак і каня, пакуль шалёнага драпежніка не забілі.

**Мінск.** У пачатку чэрвеня на складах МАЗа знаходзіліся 817 грузавікоў з 1347 сёлета выробленых машын, завод не прадаў і 119 сваіх аўтобусаў, а МТЗ – 5 тысяч трактараў.

**Брэст.** У СЭЗ "Брэст" камісія пачала ліквідацыю Першай шакаладнай фабрыкі, з 1997 года пад брэндам "Ідэал" яна вырабляла шакалад, цукеркі, іншыя прысмакі на 3 % рынку.

**Мінск.** Прафесар Б. Жэліба папярэдзіў, што сёлета і ў 2017 годзе нас чакае рэцэсія, не пачнецца рост эканомікі і золатавалютных рэзерваў, бо Расія зніжае пастаўкі нафты.

**Бабруйск.** Глава МЗС У. Макей зноў заявіў, што Беларусь адназначна супраць размяшчэння на беларускай зямлі расійскай авіябазы і іншых дадатковых войскаў.

**Мінск.** Дэ-факта Беларусь нават пад уладай Лукашэнка, як заявіў палітолаг А. Класкоўскі, задавальняе ЗША, НАТО, ЕС, калі будзе буферам у рамках палітыкі стрымлівання Расіі.

**Навагрудак.** Зяць кандыдата ў прэзідэнты ЗША Д. Трампа пацвердзіў, што карані ягонай сям'і з беларускага райцэнтра, дзе ў гады вайны бабулі ўдалося ўцячы ад гібелі з гетта.

**Мінск.** Намеснік міністра адукацыі Раіса Сідарэнка паведаміла, што ў верасні беларускія школьнікі атрымаюць новыя падручнікі з базавым наборам інфармацыі для вучняў.

**Ждановічы.** Пасля моцнага лівня і затаплення часткі мясцовага рынку страты асобных прадпрымальнікаў склалі па некалькі тысяч долараў, калі забіла ліўнёвую каналізацыю.

**Мінск.** Вельмі багаты расійскі тэлепрапагандыст У. Салаўёў за грошы (65 $ за квіток) дасць творчы вечар у Палацы Рэспублікі, калі трэба ён жорстка крытыкуе ўлады Беларусі.

**Барысаў.** Упершыню ў гісторыі чэмпіянатаў Беларусі па футболе ў вышэйшай лізе нападаючы БАТЭ Віталь Радзівонаў забіў 100 мячоў, гуляючы за адзін клуб.

*Служба інфармацыі "ВГ" (па звестках інфармагенцтваў і інтэрнэтрэсурсаў).*

# Панарама ўнутрыабласных падзей

**Наваполацк.** 3 цэнтра горада аўтавакзал вырашылі перанесці ў раён чыгуначнай станцыі "Рапнянская", на ўездзе ў нафтаград узвядуць шэраг аб'ектаў прыдарожнага сэрвісу.

**Віцебск.** На дзень раней тэрміну выпусцілі на волю з калоніі ў Шклове літоўскага бізнесмена В. Норкуса, ён жэніцца на гендырэктары птушкафабрыкі А. Шарэйка.

**Ушачы.** На працу амаль без выхадных перайшлі будаўнікі, якія ўзводзяць у райцэнтры 40-кватэрны дом, да работы на ФАК "Юнацтва" з басейнам прыступілі 3 ПМК вобласці.

**Гарадок.** 3 кватэры на 3-м паверсе выпаў і атрымаў траўмы 4-гадовы хлопчык, у той жа дзень з балкона ў пасёлку Руба вывалілася равесніца дзяўчынка, абодвух шпіталізавалі.

**Талачын.** Жыхары вёскі Марцюхова паскардзіліся ў газету "СБ. Беларусь сегодня" на частыя перабоі з падачай вады нізкай якасці са зношаных вадаправодных сетак.

**Лепель.** Ураганны вецер днём у вёсцы Слабодка пакінуў за некалькі хвілін шэраг дамоў без стрэх і шыферу, зваліў векавую ліпу, паламаў яблыні, грушы і слівы вяскоўцаў.

**Паставы.** Летам акрамя 28 аздараўленчых лагераў пры школах раёна адкрыліся яшчэ стацыянарныя ў 4 змены на базе касцёла райцэнтра і дзіцячага цэнтра "Ветразь".

**Докшыцы.** У выніку наезду раніцай іншамаркі на аўтадарозе на Бягомль за вёскай Юхнаўка трагічна загінула 3-гадовая дзяўчынка, па факце распачата крымінальная справа.

**Браслаў.** У мікрараёне шматпавярховак райцэнтра 715 абанентаў падключылі да сучасных опта-валаконных ліній сувязі з высокахуткасным інтэрнэтам, на вёсцы такіх планаў няма.

**Віцебск.** Абласная пракуратура распачала крымінальную справу па факце выпадзення з тралейбуса 74-гадовай пенсіянеркі, ад чаго яна памерла на наступны дзень.

**Мёры.** Раённы суд на выязным пасяджэнні ў вёсцы Чапукі абмежаваў у дзеяздольнасці двух маладых п'яніц, работнікаў мясцовай гаспадаркі ва ўзросце 23 і 32 гады.

**Глыбокае.** Майстры мясцовай кузні "У ажуры" падаравалі гораду самую вялікую у краіне кветкавую карусель вагой каля тоны і вышынёй з трохпавярховы дом.

**Віцебск**. Прадстаўнікі ўкраінскай спявачкі Джамалы, пераможцы "Еўрабачання" абверглі хлусню СМІ Расіі, што ад яе канцэрта адмовіліся на "Славянскім базары" з-за палітыкі.

**Наваполацк.** У вызначаны час хакеісты "Хіміка-СКА" не выйшлі з адпачынку, існаванне каманды пад пытаннем, у ёй засталося каля 10 ігракоў, многія ўжо звольніліся адсюль.

**Орша.** Выхаванца мясцовай ДЮСШ Аліна Талай на чэмпіянаце Еўропы па лёгкай атлетыцы заваявала "серабро", хутка яна выступіць на Алімпіядзе ў Рыа-дэ-Жанейра.

*Служба інфармацыі "ВГ" (па звестках інфармагенцтваў і інтэрнэтрэсурсаў).*

■ Уладзімір Скрабатун

# Глыбокае – горад, у якім хочацца жыць!

Можа быць, словы, вынесеныя аўтарам у загаловак, сказаныя яшчэ заўчасна і з вялікім авансам. Аднак, адбылы нядаўна Вішнёвы Фестываль паказаў, што ён паступова становіцца прывабным і раскручаным турыстычным брэндам не толькі на Беларусі, але і вядомым далёка за межамі нашай краіны. Прыехалі не толькі людзі з блізкіх і далёкіх ваколіцаў, замежныя артысты, але, што самае галоўнае, ураджэнцы нашага краю, якія выказвалі тут не толькі настальгію па пакінутай радзіме, але і няўхільнае жаданне вярнуцца сюды – ужо на сталае жыхарства.

Вішнёвы Фестываль становіцца добрай гандлёвай пляцоўкай не толькі для мясцовых прадпрымальнікаў, але і прадпрымальнікаў на адлегласці да Мінска. Гэта стымулюе актыўнасць не толькі дробнага прадпрымальніцтва, напрыклад, выраб розных сувеніраў па згаданай тэматыцы, але і больш буйнейшы бізнес! Ну скажыце: ці магло б Глыбокае яшчэ гадоў 15 таму арганізаваць і прыняць такога ўзроўню Фестываль? Не! Цяпер у Глыбокім не толькі ЖКГўская гасцініца з еўрарамонтам, але і больш дзясятка крутых прыватных гатэляў, якія задаволяць і самага капрызнага і патрабавальнага госця!

Ёсць сэнс прыехаць не толькі на сам Фестываль, але і разам з гэтым, з экскурсіяй, наведаць славутасці нашага горада і раёна.

Паспяховасць правядзення такіх масавых і маштабных мерапрыемстваў у нашым горадзе – на вачах шматлікіх замежнікаў – можа стварыць дадатны вобраз Глыбокага ў іх вачах, што ў сваю чаргу паўплывае на спрыяльны інвестыцыйны клімат! Адназначна!

Несумнеўна – і аб гэтым усе толькі і гавораць – вялікім адкрыццём для глыбачанаў было азнаямленне з грузінскай культурай! Імпульсіўныя танцы грузінаў запомняцца надоўга, і яшчэ, не адзін год, глыбачане кожны чарговы фестываль выступленні на сцэне замежных артыстаў будуць параўноўваць з выступленнем грузінаў на Вішнёвым Фестывалі –2016! Ах! Нарэшце, мы пазнаёміліся і з жыхарамі горада Тэлаві! (Памятаеце фільм “Міміно”, калі Вахтанг Кікабідзэ са сваім тэлефанаваннем патрапіў не ў Тэлаві, а ў – Тэль-Авіў?)

Штогод, не важна, на якое свята горада, Глыбокае дададаецца новым помнікам. Гэтым разам – помнікам сям’і, які ўпрыгожыў Цэнтральны пляц Глыбокага. Скульптар – І. Казак.

Аўтару гэтых радкоў падаецца, што трэба ўжо прывесці ў належны стан і саму сядзібу Баляслава Лапыра, агранома-патрыёта, які заклаў на Глыбоччыне высокагатунковыя вішнёвыя сады, тым самым папулярызуючы вішню, якая стала сімвалам нашага горада. А сама сядзіба, якая знаходзіцца па вул. Кірава, – на выездзе з горада на правы бок – можа стаць культурна-гістарычным помнікам. Там яшчэ застаўся векавы дуб, агромністыя таполі, дзве лістоўніцы, падмуркі дома і рэшткі сада... На першым этапе гэта не будзе вымагаць значных грашовых рэсурсаў: санітарная высечка кустоўя, выкас чарнобыльніку...

У наступным 2017-м годзе Вішнёвы Фестываль юбілейны! Ужо пяць гадоў! За чатыры папярэднія гады яго арганізатары набраліся добрага досведу ў яго правядзенні, хоць гэта, відавочна, каштавала ім шмат нерваў і бяссонных начэй... Галоўнае, усё атрымалася, вынік быў цудоўны!


Глыбокае – горад маладых!


У дні Фестывалю Глыбокае дадалося новым помнікам – помнікам сям’і.

## Адбудзецца пешая пілігрымка Полацк-Росіца

*Росіцкія ўрачыстасці сёлета пройдуць 5-6 жніўня*

Айцы-марыяне запрашаюць на летнія ўрачыстасці ў Росіцу, каб традыцыйна ўшанаваць мучанікаў Юрыя і Антонія. Сёлета адбудзецца падзяка Богу за кананізацыю Заснавальніка Кангрэгацыі айцоў-марыянаў Станіслава Папчынскага, якая адбылася 5 чэрвеня ў Ватыкане.



Урачыстасці распачнуцца святой Імшой для пілігрымаў 5 жніўня ў 18.00.

У сувязі з Сусветнымі днямі моладзі ў Кракаве, у гэтым годзе адбудзецца адна пілігрымка Полацк-Росіца, якая распачне свой шлях 2 жніўня.

Запіс і падрабязная інфармацыя: +375 29 713 02 33 — а. Аляксандр Жарнасек MIC.

Дадатковая інфармацыя: mic-rosica@tut.by

## З 1 жніўня вырастуць дапаможнікі на дзяцей да трох гадоў

**З 1 жніўня ў Беларусі перагледзяць памеры дапаможнікаў, якія выплачваюць бацькам, якія знаходзяцца ў адпачынку па доглядзе за дзіцяці ва ўзросце да трох гадоў. Гэтыя выплаты вырастуць на 73.400-94. 400 недэнамінаваных рублёў у залежнасці ад колькасці дзяцей у сям’і.**

Дапаможнікі мамам у дэкрэтным пераглядаюцца раз на квартал, іх памер залежыць ад сярэднямесячнай зарплаты за папярэдні квартал. Калі яна за справаздачны перыяд упала, то дапаможнік на дзіця да трох гадоў не змяняецца.

У красавіку-чэрвені сярэдняя зарплата ў Беларусі вырасла да 7 мільёнаў 211 тысяч 132 недэнамінаваных рублёў, паведамляе Белстат. Гэта на 437 тысяч рублёў больш, чым у студзені-сакавіку гэтага года.

Атрымліваецца, што выплаты на першага дзіця вырастуць з 1 жніўня на 73.400 рублёў, на другога і наступных дзяцей — на 84 тысячы рублёў, а на дзіця-інваліда — на 94.400 рублёў.

***Паводле Белстат.***

## У жорсткай аварыі пад Докшыцамі загінулі пяць чалавек

**20 ліпеня каля 21.30 на 108 км аўтадарогі Мінск-Віцебск каля вёскі Маргавіца Докшыцкага раёна адбылася аварыя, у якой 5 чалавек загінула і 1 паранены.**

Паводле папярэдняй інфармацыі, аўтамабіль «Аўдзі-80», які рухаўся з боку г. Мінска, выехаў на паласу сустрэчнага руху, дзе сутыкнуўся з аўтамабілем «Форд Мандэа», які рухаўся ў сустрэчным кірунку.

У выніку ДТЗ кіроўца «Аўдзі» і трое мужчын, якія ехалі з ім, ад атрыманых цялесных пашкоджанняў памерлі на месцы аварыі.

Таксама ад атрыманых у выніку ДТЗ траўмаў памёр кіроўца аўтамабіля «Форд», а яго дачка, 2007 года нараджэння, якая ехала разам з ім, атрымала цялесныя пашкоджанні і была дастаўлена ў бальніцу.

Прычыны і абставіны здарэння высвятляюцца. Вядзецца следства.

uvd.vitebsk.gov.by



# Такога Лучай яшчэ не бачыў. Святкаванне 250-гадовага юбілею касцёла

**23 ліпеня Лучайская парафія святога Юды Тадэвуша, Апостала, сабрала шматлікіх вернікаў, сяброў, гасцей, артыстаў, каб разам адсвяткаваць доўгачаканую падзею – 250-годдзе заснавання святыні і адпустовую ўрачыстасць святой Ганны.**

■ **Алена Клімза-Колтан**, *тэкст;* **Леанід Юрык**, *фота*

Варта нагадаць, што велічны мураваны гмах быў закладзены 1766 на месцы былой драўлянай святыні і з'яўляецца апошнім езуіцкім касцёлам на нашых землях. Храм пабудаваны італьянскім архітэктарам Карла Спампані ў стылі пераходным ад барока да класіцызму, на сродкі ўладальнікаў Лучая – Агінскіх.

Пачалося святкаванне з адарацыі Найсвяцейшага Сакраманту. Разважанні на тэму Эўхарыстыі і адарацыйныя спевы ў выкананні моладзі пад гітарны акампанемент сталі добрай падрыхтоўкай да святой Імшы.

Святочная Літургія пачалася ўрачыстай працэсіяй святароў з міністрантамі на чале з шаноўным госцем – біскупам Аляксандрам Яшэўскім.

Упершыню ў Лучай завіталі дудары, якія пачатак святой Імшы аздобілі незвычайна прыгожай музыкай на старажытным беларускім музычным інструменце.



Юрась Панкевіч і Віталь Воранаў на фэсце ў Лучаі.



Павел Аракелян і Лявон Вольскі на лучайскай сцэне

Па запрашэнні ксяндза пробашча Мікалая Ліпскага на ўрачыстасці прыбылі святары: ксёндз-дэкан Павел Самсонаў з Дунілавіч, ксёндз Павел Кнурэк з Лынтупаў, ксёндз Міхаіл Бубен з Маладзечна, ксёндз Ежы Ноцунь з Барадзенічаў, ксёндз Міхаіл Татарэнка з Лужкоў, з далёкага Чаду (Афрыка) прыбыў на сваю малую радзіму ксёндз-прэлат Аляксандр Рагіня, каб паўдзельнічаць у святкаванні юбілейнай даты святыні, у якой ён узрастаў у веры. Маладая змена – семінарысты Алег Зямчонак з Парыжа і Алег Хмылка з Лынтупаў, а таксама дыякан Аляксей Паплёўка былі прысутнымі на свяце.

У прамове да вернікаў біскуп Аляксандр Яшэўскі закрануў тэму гісторыі будаўніцтва святыняў, узгадаў і пра Арку Запавету і пра першы храм, пабудаваны ў гісторыі чалавецтва. Іерарх падкрэсліў важнасць будавання храмаў, "бо ў святыні жыве Бог і там чалавек сустракаецца з Богам".

Парафіяльны хор з Глыбокага ўпрыгожыў спевам Літургію ў суправаджэнні лучайскага аргана з двухсотгадовай гісторыяй. Цудоўным падарункам з нагоды юбілею святыні стаў верш "Малітва за Лучай" семінарыста Алега Зямчонка, які аўтар прачытаў прысутным:

*Дзякуй Богу за рай – Лучай,*
*найпрыгажэйшы куток*
*Беларусі.*

Працэсія вакол святыні скончыла святую Імшу. Адбылося яшчэ асвячэнне перадапошняй фігуры Апостала Барталамея са скульптурнай кампазіі на прыкасцельнай тэрыторыі. З нагоды ўспаміну святога Крыштафа – апекуна ўсіх падарожных, адбылося асвячэнне аўтатранспартных сродкаў.

Дастойным працягам святкавання юбілейнай даты стаў канцэрт, рэкордны па працягласці, па колькасці выканаўцаў і гледачоў. Да апоўначы працягнулася святочная праграма, насычаная разнастайнымі выканаўцамі ў шматлікіх жанрах і плынях.

Таццяна Якушава – дыктар радыё і Валянціна Альшанская – спявачка з Мінска, былі вядучымі канцэрта. І вядомыя зоркі, такія як Лявон Вольскі і Павел Аракелян, Андрусь Такінданг і гурт "Рэха", Марына Вярэніч, Дзмітрый Корсак і Андрэй Жукоўскі, Сяргей Савіцкі, Дзмітрый Сяргееў, так і ўзыходзячыя зоркі – моладзь з наваколля, прафесійныя артысты і самабытныя музыкі, напрыклад, спадар Часлаў Рачыцкі з Шаркаўшчынскай парафіі – вельмі гарманічна склалі юбілейную святочную праграму.

Небывала яркім момантам свята стала вогненнае прадстаўленне ў выкананні шоў – "Дзісар", якое літаральна зачаравала прысутных. Скончыўся канцэрт супольным выкананнем Лучайскага гімну. Тут жа прагрымеў Лучайскі салют у 250 залпаў, які адзнаменаваў гістарычную падзею.

Напрыканцы свята вядучая Валянціна Альшанская запрасіла на сцэну "чалавека з вялікай літары" – ксяндза пробашча Мікалая Ліпскага, каб падзякаваць за несамавітае свята і за тую вялікую працу, якая вядзецца ў парафіі.

Ствараецца прыгажосць, якая прываблівае ўсё большую і большую колькасць наведвальнікаў Лучая. Важна, што тут не толькі клапатліва захоўваецца спадчына, але і ствараецца новая гісторыя парафіі. Зразумела, што без гаспадарлівага, крэатыўнага, нястомнага пробашча Мікалая Ліпскага гэта было б немагчыма.

Падзякаваўшы ўсім прысутным за ўдзел у свяце, ксёндз пробашч традыцыйна паблаславіў на дарогу і запрасіў на Свята ведаў 21 жніўня, каб супольна памаліцца перад пачаткам новага навучальнага года.



Гурт "Рэха" – пастаянны госць у Лучаі.

# Паляванне на качак



**Пачаткам летняга паляўнічага сезону служыць паляванне на качак.**

■ **Валерый Катовіч,**
*старэйшы дзяржаўны інспектар Глыбоцкай міжраённай інспекцыі па ахове жывёльнага і расліннага свету*

І гэта не дзіўна. Менавіта ў жніўні большасць вывадкаў качак падрастае і, натуральна, устае на крыло. Паляванне на качак ажыццяўляецца некалькімі спосабамі – ружэйны з пад'езда з выкарыстаннем маламерных судоў без рухавікоў або з непрацуючым рухавіком; з падыходу; безружэйны з выкарыстаннем лоўчых птушак.

Дазволеныя тэрміны палявання на вадаплаваючую дзічыну (акрамя гусей – з трэцяй суботы верасня) – з **другой суботы жніўня па другую нядзелю снежня ў светлы час сутак**. Тэрміны палявання могуць скарачацца ў выпадку пажаранебяспечнага перыяду, альбо па рашэнні карыстальніка паляўнічых угоддзяў.

Асаблівую цікавасць выклікае качынае паляванне з падыходу, якое ўяўляе спуджванне затаіўшайся птушкі і здабыча яе пры ўздыме на крыло.

Палюючы на качак, варта памятаць, што аптымальныя ўмовы для палявання – ветранае надвор'е ці дзень, той час, калі качкі падпускаюць да сябе некалькі бліжэй, што дазваляе зрабіць стрэл нашмат дакладней.

Надрэнным спосабам з'яўляецца і паляванне з сабакамі, выдатнае чуццё якіх дазваляе высачыць, спудзіць і прынесці здабытую дзічыну.

Што тычыцца палявання з лодкі, то яно таксама вельмі цікавае, аднак і тут без сабакі, які дастане падранкаў з водных зараснікаў, проста не абысціся.

Паляванне на качак восенню будзе займальным, рэзультатыўным і прынясе максімум задавальнення, калі паляўнічыя будуць выконваць правілы бяспекі пры паляванні на вадаплаваючую дзічыну, этыку паляўнічага.

**Паважаныя паляўнічыя, выконвайце правілы і ўдалага ўсім палявання.**

**Аб усіх парушэннях прыродаахоўнага заканадаўства вы можаце паведаміць па тэлефоне даверу 8 (02156) 28670 або на мабільныя тэлефоны: МТС 8972302, МТС 8905528, МТС 2494549, МТС 6456678.**

# Ваша здароўе залежыць толькі ад Вас

## 28 ліпеня – Сусветны Дзень барацьбы з гепатытамі



**Штогод 28 ліпеня адзначаецца Сусветны дзень барацьбы з гепатытам.**

■ **С. Стальмачонак,**
*памочнік урача-эпідэміёлага Глыбоцкага РЦГЭ*

Вірусны гепатыт паражае сотні мільёнаў людзей ва ўсім свеце, выклікаючы вострыя і хранічныя захворванні печані, якія прыводзяць да 1,4 млн выпадкаў смерці. Праблема захворвання віруснымі гепатытамі з'яўляецца актуальнай для многіх краін свету, у тым ліку і для нашай краіны. Рэспубліка Беларусь адносіцца да рэгіёнаў свету з умераным узроўнем распаўсюджвання парэнтэральных вірусных гепатытаў (далей ПВГ). У Рэспубліцы Беларусь у мінулым годзе было выяўлена 4879 новых выпадкаў ПВГ, па Віцебскай вобласці – 841 новы выпадак ПВГ. У раёне штогод рэгіструецца каля 20-30 ізноў выяўленых выпадкаў ПВГ. У структуры ПВГ пераважаюць хранічныя формы парэнтэральных гепатытаў B і C.

**Парэнтэральныя вірусныя гепатыты** – гэта запаленчыя захворванні печані, выкліканыя вірусамі гепатытаў **B, C і D**. Найбольш паражаюцца гепатытам узроставыя групы ад 20 да 60 гадоў.

**Крыніцай інфекцыі** парэнтэральных вірусных гепатытаў з'яўляецца чалавек – **хворы** гепатытам у вострай або хранічнай форме, а таксама бессімптомны **носьбіт** віруса. Носьбіты вірусаў могуць не здагадвацца, што яны заражаныя і з'яўляюцца крыніцай інфекцыі. Вірус утрымліваецца ў высокіх канцэнтрацыях ў крыві, сперме, вагінальным сакрэце, у меншых – у сліне, мачы, грудным малацэ. Для заражэння досыць драбнюткай кроплі крыві (0,0005 мл), часам нават нябачнай няўзброеным вокам.

**Як выяўляецца інфекцыя?**

Інфекцыя можа працякаць як клінічна выказана, так і бессімптомна.

**Інкубацыйны перыяд** (перыяд ад моманту заражэння да першых клінічных праяў) складае ад 2 тыдняў да 6 месяцаў. Працяглы **інкубацыйны перыяд** абцяжарвае своечасовую дыягностыку, паколькі агульнае недамаганне, слабасць, зніжэнне апетыту ў пачатковым перыядзе захворвання асаблівай трывогі ў хворага не выклікаюць, і як правіла, спісваецца ўсё на "простую стомленасць". **Удалейшым** паступова павялічваецца печань, селязёнка, з'яўляецца сверб скуры, мача цямнее, кал абескаляроўваецца, з'яўляецца жаўтушнасць склер і скураных пакроваў, болі ў правым падрабрынні. Небяспека гэтых гепатытаў заключаецца ў схільнасці да развіцця хранічнай інфекцыі, пры якой вірус захоўваецца ў арганізме чалавека дзясяткі гадоў і, паступова руйнуючы печань, можа прывесці да цырозу ці раку печані.

Больш за палову выпадкаў ПВГ першыя 5 – 10 гадоў пасля інфікавання працякаюць без выяўленых клінічных праяў – **у форме носьбіцтва**. Вірусы, якія выклікаюць вірусныя гепатыты B і C, называюць "ціхімі забойцамі", таму што з імі можна жыць гадамі, нічога не падазраваць і неўсвядомлена перадаваць вірусы іншым людзям.

Да неспрыяльных фактараў, якія ўскладняюць працяг захворвання, адносяцца: злоўжыванне алкаголем, ужыванне наркотыкаў, заражэнне некалькімі вірусамі, аслаблены імунітэт. Для аднаўлення функцыі клетак печані патрабуюцца працяглы час, сур'ёзнае лячэнне і строгі рэжым харчавання, які забяспечвае зберагалую нагрузку на клеткі печані.

**Інфікаванне вірусам гепатыту B, C і D можа адбыцца ў наступных сітуацыях:**

■ **адінфікаванай маці да яе дзіцяці** (унутрычэраўна праз плацэнту падчас цяжарнасці або падчас родаў пры праходжанні плоду праз радавыя шляхі);

■ **пры неабароненых палавых кантактах;**

■ **пры бытавым кантакце** (пры судотыку з пашкоджанымі скуранымі пакровамі і слізістымі абалонкамі інфікаванага чалавека, пры доглядзе за ім, падчас вулічных боек; пры сумесным выкарыстанні з хворым агульных прадметаў асабістай гігіены – прыбораў для галення, ручнікоў, расчосак, зубных шчотак, грабянцоў, нажніц, забруджаных біялагічнымі вадкасцямі);

■ **пры ўнутрывенным увядзенні наркотыкаў** з выкарыстаннем агульных шпрыцаў, іголак або ўжо інфікаванага наркотыку;

■ **падчас нанясення татуіровак, праведзення пірсінгу, манікюру** ў непрыстасаваных умовах забруджаным нестэрыльнымі інструментарыем;

■ некаторая рызыка заражэння існуе і **пры праведзенні медыцынскіх маніпуляцый**: пры пераліванні крыві, пры розных хірургічных умяшаннях, дыягнастычных працэдурах; аднак у нашай краіне гэтая рызыка зведзеная да мінімуму, бо пры праведзенні маніпуляцый выкарыстоўваюцца аднаразовыя стэрыльныя шпрыцы, інструментар і перавязачны матэрыял, а для папярэджання заражэння праз донарскую кроў – уся кроў тэстуецца на вірусы.

**Вірусы гепатытаў B, C і D не перадаюцца:**

■ пры чханні або кашлі;

■ пры поціску рукі, абдымках або сяброўскіх пацалунках;

■ праз ваду, ежу або сталовы посуд.

**Прафілактыка – гэта:**

● **Вакцынацыя супраць гепатыту B.** Вакцына, што пры гэтым ужываецца, высокаэфектыўная і прадухіляе ўзнікненне гепатыту B на 95%. (Вакцыны супраць гепатыту C у свеце не існуе, навуковыя даследаванні па яе стварэнні вядуцца.)

● **Надзейны адзіны палавой партнёр і выкарыстанне прэзерватыва.**

● **Катэгарычная адмова ад унутрывеннага ўвядзення наркотыкаў.**

● **Выкарыстанне толькі індывідуальных прадметаў асабістай гігіены**: прыбораў для галення і манікюрных прыладаў, ручнікоў, нажніц, грабянцоў, расчосак, зубных шчотак.

● **Асцярожнае стаўленне да ўсіх маніпуляцый, падчас якіх парушаецца цэласнасць скураных і слізістых пакроваў** – да татуіровак, пірсінгу, манікюру і інш., асабліва калі яны праводзяцца ў непрыстасаваных умовах, дзе не выконваюцца правілы дэзінфекцыі і стэрыльнасці.

**Памятайце: Ваша асабістае здароўе залежыць толькі ад Вас.**

# Не ўпускайце ў дом незнаёмых людзей і не выпівайце з імі!

**На тэрыторыі Глыбоцкага раёна ўсяго пражывае 9259 грамадзян пажылога ўзросту (больш за 60 гадоў), з іх адзінокіх 1032, пажылых грамадзян, што пражываюць адны, – 3119.**

■ **Аляксандр Гігола,** *начальнік аддзела аховы правапарадку і прафілактыкі Глыбоцкага РАУС*

Супрацоўнікамі РАУС выяўлена трыццаць дзве асобы асацыяльных паводзін, якія пражываюць з пажылымі грамадзянамі. З гэтымі асобамі праводзяцца прафілактычныя мерапрыемствы.

Усяго ўчынена 18 злачынстваў (у 2015 годзе за аналагічны перыяд часу – 11) у дачыненні да састарэлых грамадзян, у асноўным гэта крадзяжы маёмасці.

**Каб не стаць ахвярай, памятайце:**

● калі выходзіце, зачыніце дзверы на ўсе замкі, а таксама вокны і балкон;

● пазбягайце размоў на тэму свайго месцазнаходжання, асабліва ў прысутнасці чужых людзей і дзяцей; нагадвайце дзецям, пра тое, што нельга распавядаць, незнаёмым людзям пра тое, хто знаходзіцца дома, а таксама пра тое, дзе могуць захоўвацца ключы ад дома ці кватэры;

● не пакідайце матэрыяльных каштоўнасці без нагляду ў грамадскіх месцах;

● пры з'яўленні асоб цыганскай нацыянальнасці, неадкладна паведамляйце ў РАУС, не ўпускайце ў дамы (кватэру), не праводзьце з імі якія-небудзь здзелкі;

● абсталюйце кватэру ахоўнай сігналізацыяй, усталюйце тэлефон у спальным пакоі;

● пры з'яўленні незнаёмых грамадзян, якія ажыццяўляюць рэалізацыю тавараў або аказваюць паслугі - паведамляйце ў РАУС на тэлефон 102;

● у сувязі з дэнамінацыяй грашовай адзінкі Рэспублікі Беларусь не мяняйце грашовыя купюры ў старонніх асоб, а таксама ажыццяўляйце абмен грашовых сродкаў выключна ў банкаўскіх установах.

**Самае галоўнае – не ўпускайце ў дом незнаёмых людзей і не распівайце з імі спіртныя напоі.**

У мэтах узмацнення абароны пажылых людзей ад супрацпраўных замахаў, павышэння ўзроўню ўзаемадзеяння суб'ектаў прафілактыкі па задавальненні запытаў і патрэбаў названай катэгорыі грамадзян, з **25 па 31 ліпеня** гэтага года на тэрыторыі Глыбоцкага раёна праводзіцца спецыяльнае комплекснае мерапрыемства **"Увага - узрост!"**



*Фота www.d-p.by*

## МНС інфармуе
**на 19.07.2016 года:**

**Віцебская вобласць:**
Пажараў – 397;
Гібель людзей – 44, з іх дзяцей няма;
**Глыбоцкі раён:**
Пажараў – 12;
Гібель людзей – 6, з іх дзяцей няма
За 2015 год у раёне адбылося 36 пажараў, на якіх загінулі 3 чалавекі.

